На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...

Якуб Колас

№ 30 (612)

Пятніца, 19 лютага 1999 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень

# Народная Воля

Кошт: у кіёсках і крамах — 10000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

Газета сверстана на компьютерах фирмы "ЛИНТЕК"

Lintec Computer

ООО Экопроммеханізм
ЭЛЕКТРОТЕХНИКА от "А" до "Я"
Тел./факс:(017) 283-65-70, 269-52-13, 268-03-95.

ЭЛЕКТРОТЕХНИЧЕСКАЯ ПРОДУКЦИЯ ELPROD Тел. (017) 264-26-71.

Пейджинговую связь редакции обеспечивает
МОБИЛКОМ пейджинг-система
(017) 222-46-51
(017) 222-46-52

К&К ОСВЕТИТЕЛЬНОЕ ОБОРУДОВАНИЕ ЛАМПЫ КАБЕЛЬ
8-(017)-213-70-21
8-(017)-213-70-13
ПРИНИМАЕМ КАРТЫ BERLIO
Кальченко & К°

## Заява

### Беларускай асацыяцыі журналістаў

Беларускія ўлады працягваюць беспрэцэдэнтны наступ на свабоду слова і канстытуцыйнае права жыхароў Беларусі атрымліваць праўдзівую, аб'ектыўную і своечасовую інфармацыю. Старшыня Дзяржкамдруку Міхаіл Падгайны накіраваў на адрас шасці незалежных газет ("Народная воля", "Белорусская деловая газета", "Навіны", "Наша Ніва", "Пагоня", "Свободные новости") папярэджанне аб парушэнні арт.5 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі", у частцы "заклiку да захопу ўлады".

Ніводная з названых газет падобную інфармацыю не друкавала.

Мы маем справу з нахабнай фальсіфікацыяй заканадаўства на карысць улад і скажэнне рэчаіснасці.

Логіка гэткіх "дакументаў" цалкам зразумелая. Эканоміка краіны ў заняпадзе, давер народа да ўлад знікае. Кожная праўдзівая інфармацыя пра рэальны стан спраў выклікае ў чынавенства раздражненне. І, як гэта бывае пры таталітарных рэжымах, "крайнімі" спрабуюць зрабіць незалежныя сродкі масавай інфармацыі.

Між тым, згодна з арт.3 Закона аб друку, парушаныя не толькі правы журналістаў, але і правы грамадзян Беларусі "на атрыманне, захаванне і распаўсюджванне поўнай, сапраўднай і своечасовай інфармацыі пра дзейнасць дзяржаўных органаў, грамадскіх аб'яднанняў, аб палітычным, эканамічным, культурным і міжнародным жыцці, стане навакольнага асяроддзя" (арт.34 Канстытуцыі РБ).

Мы рашуча пратэстуем супраць чарговага парушэння законнасці, супраць імкнення ўлад канчаткова задушыць свабоду слова ў Беларусі.

## Демократическая общественность протестует против очередной попытки удушения независимой прессы Беларуси

После того как Госкомпечатью Беларуси было вынесено предупреждение шести негосударственным газетам, Белорусская ассоциация журналистов приняла Заявление. В этом документе выражается протест против произвола властей. Отвергаются обвинения в призывах к захвату власти.

К заявлению присоединились руководители общественных организаций Беларуси. Руководитель Евро-Атлантической ассоциации Мечеслав Гриб считает, что предупреждения не имеют под собой юридической основы. Они свидетельствуют только о том, что в Беларуси устанавливается чрезвычайное положение. И люди в этой ситуации не должны молчать. Нужно объединяться и заявлять протест.

Вице-президент белорусского ПЕН-центра Карлос Шерман считает, что происходящее — не что иное, как полное беззаконие. Мы можем остаться без свободного слова вообще.

Лидеры Наблюдательного комитета Белорусской правозащитной конвенции Александр Потупа, Николай Кузьмин, Ассамблеи демократических негосударственных организаций Владимир Ровда, Белорусского Хельсинкского комитета Татьяна Протько считают, что начинается очень жесткое давление на прессу. Всем необходимо отстаивать ее интересы и предпринимать все возможные меры, чтобы не допустить закрытия этих газет.

## Редакторы рассчитывают на поддержку не только коллег, но и читателей

После того, как Госкомпечатью Беларуси было вынесено предупреждение шести негосударственным газетам ("Народная воля", "Белорусская деловая газета", "Навины", "Наша нива", "Пагоня", "Свободные новости"), главные редакторы этих газет провели пресс-конференцию с целью обсуждения сложившейся ситуации. Как известно, вышеупомянутым газетам было предъявлено абсурдное обвинение в "призыве к захвату власти". Аргументом для обвинения послужила публикация материалов Верховного Совета 13-го созыва о проведении предстоящих в мае сего года выборах президента Республики Беларусь. Руководители "пострадавших" изданий недоумевали: в чем, собственно, состав преступления? Любая газета прежде всего стремится донести до своей аудитории достоверную и разностороннюю информацию. Независимые газеты никогда не ограничивались публикациями только официальной информации, в отличие от государственных. Ими всегда освещались и будут освещаться события, происходящие и "по ту сторону фронта". И ни одна газета при этом ни в скрытой, ни в открытой форме не призывает к захвату власти.

Судя по всему, предупреждения Госкомпечати можно расценивать как политическую акцию против неугодных демократических трибун. У власти возникла необходимость сбить поднявшуюся политическую волну, назревающее народное недоверие и недовольство. Редакторы признали, что власти не впервые пытаются давить на их издания. Начиная с 1995 года, независимые газеты постоянно получают "пинки" по любому поводу. Но газету невозможно уничтожить, пока существуют журналисты, которые ее делают, и читатели, которые стремятся ее прочесть. Независимо от решения властей. Только в таких неблагоприятных для независимой печати условиях, эти шесть "предупрежденных" газет хотят рассчитывать не только на поддержку коллег, но и самих читателей, желающих видеть свои любимые издания в киосках.

**Наталья РАДИНА.**

Стоп-кадр

Актывісты "Маладога фронту" ў час акцыі "Беларусь — у Еўропу".

**Фота IREX/ProMedia.**

Адкрытым тэкстам!

## Яны спалохаліся выбараў, бо не ўпэўненыя, што захаваюць свае крэслы

Усім вядома, што ў 1994 годзе прэзідэнт Беларусі быў абраны на тэрмін 5 гадоў. Гэта значыць, што яго паўнамоцтвы заканчваюцца ў гэтым, 1999-м, годзе. Менавіта таму Вярхоўны Савет у адпаведнасці з Канстытуцыяй прызначыў выбары прэзідэнта на 16 мая 1999 г. Даць народу права выбару — гэта і законна, і справядліва.

Аднак высветлілася, што ёсць людзі, якія хацелі б пазбавіць грамадзян Беларусі гэтага права. Яны спалохаліся выбараў, бо не ўпэўненыя, што захаваюць свае крэслы.

Старшыня Дзяржкамдруку М.Падгайны таксама "вызначыўся" на гэтым фронце. Ён пачаў пасылаць папярэджанні сродкам масавай інфармацыі, якія надрукавалі дакументы аб выбарах прэзідэнта. У парыве жадання даказаць сваю адданасць правадыру старшыня Дзяржкамдруку "адшукаў" парушэнне ў публікацыях, якія адлюстроўваюць працэс падрыхтоўкі да выбараў. Ён лічыць гэта "заклікам да захопу ўлады".

Дзіўна: рашэнне аб правядзенні выбараў — гэта "заклік да захопу ўлады", а пазбаўленне народа права выбару — гэта што? Каму тады належыць улада ў Беларусі — народу ці сп.Падгайнаму?

Мы выказваем рашучае абурэнне дзейнасцю сп.Падгайнага і іншых чыноўнікаў, што імкнуцца пазбавіць людзей права самім выбіраць кіраўніцтва краіны. Усе тыя, хто парушае правы чалавека і свабоду слова, будуць непазбежна прыцягнуты да адказнасці згодна з Законам.

**Станіслаў БАГДАНКЕВІЧ,**
**старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі.**

Пазіцыя

## Гульня ў адны вароты?

У падпісанай напярэдадні Новага года ў Маскве Дэкларацыі гаворыцца аб усенародным абмеркаванні новага этапу інтэграцыі. Адразу скажу: ці ведаў расійскі бок, падпісваючы ў Крамлі дакументы аб новым Саюзе, што іх "усенароднае абмеркаванне" ў цяперашняй Беларусі проста немагчымае?

Так званы рэферэндум 1996 года яскрава паказаў усяму свету, што плебісцытам тут і не пахла. Тэлебачанне праз кожную гадзіну паказвала электарату, як трэба галасаваць. Наглядна дэманстравалі гледачу, якія клетачкі ў бюлетэні для тайнага галасавання неабходна закрэсліць. І гэта рабілася без стомы кожны дзень. А спаборніцтвы раёнаў, гарадоў, хто больш прапусціць электарату яшчэ напярэдадні даты афіцыйнага галасавання пры адсутнасці міжнародных наглядальнікаў? А наглядныя дапаможнікі, схемы ў паштовых скрынках выбаршчыкаў і нават у кабінах для тайнага галасавання?! І гэта называецца "свабоднае волявыяўленне"?! Самы сапраўдны здзек над паняццем "рэферэндум" дый годзе!

Пры гэтым нельга забываць аб галоўным. Іншадумцы, нават лідэры розных партый, чые погляды розніліся ад думак дырэктара саўгаса, на тэлеэкран, у друкаваныя дзяржаўныя СМІ не дапускаліся. Цяжка паверыць (але гэта гістарычны факт!), што старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, прэзідэнт і яго атачэнне не давалі магчымасці выступіць па радыё і тэлебачанні. Вось так праходзіў плебісцыт палукашэнкаўску!

Не, пэўне, не ведаюць дзяржаўныя дзеячы Расіі, што сапраўдны рэферэндум у сённяшняй Беларусі ніяк не можа адбыцца. Гэта будзе гульня ў адны вароты.

Я думаю, што Масква шмат чаго яшчэ не ведае пра дзяржаву, з якой ідзе на такое аб'яднанне. А можа, і не хоча ведаць?

**Іван АБРАМОВІЧ, гісторык.**
*г. Светлагорск.*

### "Чэбел" асвоіў "Ладу"

Першыя швейныя машыны маркі "Лада" з айчынных дэталяў будуць сабраны ў канцы лютага на сумесным беларуска-чэшскім прадпрыемстве "Чэбел" у Гомелі. Як паведаміў карэспандэнту БелТА Віктар Рыжоў — дырэктар свабоднай эканамічнай зоны "Гомель — Ратон", у склад якой уваходзіць СП "Чэбел", прадпрыемства актыўна імкнецца знізіць сабекошт прадукцыі. Канкурэнтаздольны тавар, на думку кіраўніка СЭЗ, ужо запатрабаваны на рынках Беларусі, Чэхіі, Расіі.

У гэтым годзе будзе выпушчана 3,5 тысячы швейных машын "Лада", у вытворчасць якіх закладзены амаль векавыя традыцыі, якія ў сваю чаргу бяруць пачатак ад славутага "Зінгера".

**Лілія КРАПІВІНА.**

## Обращение

### к общественным объединениям и наиболее активным гражданам Республики Беларусь

На 4 апреля 1999 года назначены выборы местных Советов депутатов. Эти выборы, в отличие от всех предыдущих, будут проходить в особых условиях. В предстоящих выборах отказались участвовать наиболее крупные политические партии Беларуси.

Накануне выборов принят новый закон, согласно которому в кандидаты в депутаты местных Советов депутатов не могут быть выдвинуты граждане, подвергнутые административному взысканию, налагаемому в судебном порядке. В нарушение Конституции лишены права выдвижения общественные объединения, усложнена процедура сбора подписей избирателей при выдвижении, а избирательным комиссиям предоставлена возможность по формальным признакам прекращать регистрацию любого кандидата в депутаты. Кроме того, новый закон о местных выборах предоставляет избирательным комиссиям многочисленные возможности сфальсифицировать и подтасовать результаты голосования.

Подтверждением тому, что избирательным комиссиям всех уровней на предстоящих выборах может поступить команда сфальсифицировать результаты голосования, является факт повсеместного необоснованного отказа со стороны местных властей включить представителей общественности (в том числе и представителей Всебелорусского клуба избирателей) в состав территориальных и окружных избирательных комиссий. И ни один исполком не ответил на вопросы: от каких структур поданы заявки на включение в состав избирательных комиссий, какое количество представителей в них включено от каждой структуры и почему не включены представители от независимых общественных структур при недоукомплектованности соответствующей избирательной комиссии.

Таким образом, общественные объединения и наиболее активные граждане Республики Беларусь, решившие в этих неимоверно трудных условиях все же участвовать в выборах местных Советов депутатов, оказались лицом к лицу со всемогущим государственным аппаратом, способным на все, лишь бы не допустить победы независимых от власти кандидатов.

В этих условиях Всебелорусский клуб избирателей (ВКИ), имеющий разветвленную структуру местных клубов избирателей, обладающий опытом подготовки и проведения избирательных кампаний, завоевавший неплохую репутацию у большинства избирателей, готов поддержать всех независимых от власти кандидатов в депутаты всех уровней, проинформировать избирателей по каждому избирательному округу о зарегистрированных кандидатах в депутаты, помочь им довести до избирателей свои программы, организовать наблюдение как в период подготовки к выборам, так и при проведении голосования, в том числе досрочного, а также при подсчете результатов голосования на участках и в окружных (территориальных) комиссиях, осуществив при этом параллельный подсчет голосов.

Сейчас Всебелорусский клуб избирателей приступил к созданию системы независимого общественного наблюдения за всеми последующими выборами и референдумами, первым этапом этой работы является обучение необходимого количества наблюдателей. Обучение проводится при поддержке Фонда Евразия, оно включает в себя проведение сначала районного семинара, а затем курсов для наблюдателей данного района.

Совет Всебелорусского клуба избирателей принял решение направить своих представителей на все избирательные участки, во все территориальные и окружные избирательные комиссии Беларуси для наблюдения за ходом подготовки и проведения выборов. Кроме членов клубов избирателей, мы можем направить на избирательные участки в качестве наших представителей всех активных избирателей Беларуси, выписав им соответствующее удостоверение. Кроме удостоверения, наши представители будут обеспечены Памяткой наблюдателя (с выдержками из избирательного законодательства Республики Беларусь), инструкцией представителям общественности (с указанием — как наблюдать), листом наблюдения (где подробно сказано — за чем наблюдать), а также бланками актов, протоколов и др.

Но есть большая опасность того, что некоторые представители общественности, не подготовившись как следует к наблюдению и тем не менее включившись в наблюдение, не смогут выявить и юридически грамотно зафиксировать совершаемые нарушения, не смогут противостоять произволу со стороны избирательных комиссий, не будут знать, что делать, если избирательные комиссии будут препятствовать наблюдению, не смогут с достоверностью подтвердить соответствующими документами демократичность (открытость, честность) или недемократичность (закрытость, наличие повлиявших на результаты выборов нарушений, наличие фальсификаций и подтасовок результатов голосования или подготовку к ним) выборов и тем самым невольно будут способствовать легализации сфальсифицированных выборов. Чтобы этого не произошло, браться за наблюдение по конкретному избирательному округу или району следует только при наличии достаточного количества обученных, подготовленных наблюдателей, руководимых подготовленным координатором, обеспеченных всеми необходимыми документами и включенными в общую систему наблюдения.

По вопросам поддержки кандидатов в депутаты, вопросам участия в организации и проведении семинаров с наблюдателями, а также по вопросам участия в создаваемой Всебелорусским клубом избирателей системы независимого общественного наблюдения обращаться по адресу: **220021, Минск, переулок Кабушкина, 15—12, тел. (017) 285-56-84, председатель Всебелорусского клуба избирателей Владимир Казимирович Гудеев.**

**Всебелорусский клуб избирателей.**

Версия

## Белорусские власти боятся выборов по боснийской технологии?

Объявив предупреждение сразу шести газетам, которые якобы нарушили Закон Республики Беларусь "О печати и других средствах массовой информации", официальные власти сместили карающий акцент с избирательной комиссии по выборам президента на масс-медиа. Почему так произошло? Случайно ли это?

Похоже, что нет. Есть мнение, что власти начали накидывать удавку на прессу после того, как им стало известно, что в Беларуси выборы могут пройти по боснийскому варианту. Дело в том, что в Боснии в свое время при организации выборов использовались специальные машины ОБСЕ (Организации по безопасности и сотрудничеству в Европе). Эти машины насыщены тончайшей электроникой, и голосование осуществляется по принципу отпечатков пальцев. То есть избиратель голосует своим пальцем. А поскольку известно, что отпечатки пальцев ни у кого из людей не повторяются, аппаратура дает возможность беспрепятственно проголосовать каждому. Более того, техника здесь такого высокого класса, что она не позволяет уже проголосовавшему сделать это вторично, то есть один и тот же человек не может голосовать более одного раза.

Если ОБСЕ выделит такую технику для Беларуси, то в течение десяти дней, а Закон о выборах президента позволяет проводить досрочное голосование, эти машины легко проедут по всей территории Беларуси, и избиратели, не боясь никаких кар со стороны властей, выскажут свое мнение по поводу выборов. Естественно, что в этой ситуации роль избирательных комиссий уходит на задний план, а главными в кампании становятся средства массовой информации. Поэтому им и объявлена война.

**Владимир ГЛОД.**

МАЙ
16
ВОСКРЕСЕНЬЕ

ВЫБОР БЕЛАРУСИ
ЗАВИСИТ ОТ ВАШЕГО ВЫБОРА

Крымінал

## Кантрабандыст затрыманы

Крымінальную справу супраць непрацуючага жыхара Іркуцка завялі органы правапарадку Брэстчыны. Падставай для гэтага сталі вынікі агляду расійскага падарожніка супрацоўнікамі Брэсцкай мытні. У яго былі знойдзены і канфіскаваны схаваныя 20400 амерыканскіх долараў і 5 тысяч расійскіх рублёў. Гэтыя грошы расіянін, які накіроўваўся ў Чэхію, спрабаваў незаконна вывезці за межы краіны.

**Іван КУКСА.**

Чулі?

## "Навінкі" вырашылі абскардзіць дыягназ Дзяржкамдруку

Заснавальнікі газеты "Навінкі" падалі скаргу ў суд на Дзяржкамдрук, які не зарэгістраваў выданне. Дзеянні чыноўнікаў дзяржаўнай установы яны расцанілі як "унікальны прэцэдэнт у гісторыі прэсы".

Як вядома, Дзяржкамдруку не спадабалася... назва газеты. Яна, як напісана ў адказе за подпісам старшыні гэтага ведамства М.Падгайнага, "асацыіруецца з шырока вядомым у Беларусі псіханеўралагічным домам-інтэрнатам №3, які знаходзіцца ў пасёлку Навінкі". І, на яго думку, "пярэчыць артыкулу 5 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі", бо публікацыі аб грамадзянах у выданні з такой назвай будуць рабіць замах на іх гонар і годнасць". Ніякіх другіх прэтэнзій старшыня Дзяржкамдруку не назваў.

Згодна з такой логікай, лічаць заснавальнікі "Навінак", ці не варта наогул забараніць назву пасёлка Навінкі і адмяніць усе рэйсы аўтобусаў з такой назвай. Дарэчы, паведамілі яны, газета мае намер зарэгістравацца як рэспубліканская. Жыхары іншых абласцей рэспублікі не маюць ніякага ўяўлення аб існаванні мінскай псіхлячэбніцы. Таму ў іх, упэўнены заснавальнікі "Навінак", асацыяцыі з назвай, у адрозненне ад мінскіх чыноўнікаў, будуць без псіхухілаў.

"Навінкі" пачалі выходзіць самвыдатам год таму. Зараз палітыка-сатырычнае выданне займела сваіх чытачоў не толькі ў сталіцы, але і ў іншых гарадах рэспублікі. Як лічаць стваральнікі, газета стала ўжо часткай маладзёжнага руху. Вакол яе згрупавалася моладзь, якая думае "нестандартна". Таму, мяркуюць стваральнікі газеты, дзеянні Камітэта па друку — гэта "тыповы прыём карнай псіхіятрыі". У савецкія часы, адзначылі яны, калі хацелі забараніць нейкую грамадскую з'яву, людзей падавалі як алігафрэнаў.

Слуханне справы ў судзе, як чакаецца, адбудзецца ўжо ў гэтым месяцы. У безумоўна нестандартнай судовай практыцы Беларусі гэты працэс тым не менш абяцае стаць адным з самых кур'ёзных для беларускіх улад. "Будзе вельмі цікавае шоу", — запэўнілі выдаўцы "Навінак".

**Наталля ВАЛАКІДА.**

## Хартия-97 открывает "окно" в Европу

15 февраля в Страсбурге прошла встреча представителей Хартии-97 с Генеральным секретарем Совета Европы Даниелем Таршисом. В состав делегации от Беларуси вошли руководитель гродненского объединения "Ратуша" Александр Милинкевич, председатель Союза поляков Беларуси Тадеуш Гавин, главный редактор газеты "Рабочий" Виктор Ивашкевич, член оргкомитета Хартии-97 журналист Николай Халезин и Татьяна Северинец (г.Витебск). В ходе переговоров белорусские демократы сообщили Даниелю Таршису о регулярных нарушениях прав человека в Беларуси, обсудили ряд вопросов, касающихся политического и экономического кризиса в республике. Господин Таршис заверил оппозиционеров, что граждане Беларуси являются полноправными гражданами Европы и они имеют все возможности присоединиться к процессу европейской интеграции. Вот только нужно преодолеть свои временные трудности, возникшие на пути становления демократии.

В этот же день директор политического департамента Совета Европы Ханс-Петер Фуррер, встретившись с представителями Хартии-97, дал обед в их честь.

На следующий день, 16 февраля, делегация прибыла в Брюссель, где провела ряд встреч с депутатами и ответственными сотрудниками Европарламента. Кроме того, белорусскими политиками заинтересовалось Министерство иностранных дел Бельгии. Поскольку Королевство Бельгия не имеет своего представительства в Беларуси, то бельгийский МИД привлекла перспектива получения объективной информации о положении дел в Республике Беларусь. Темой переговоров советника министра иностранных дел господина Тиса с представителями Хартии стал вопрос о жестоком избиении фашистскими молодчиками координатора Хартии-97 Андрея Санникова.

Вечером того же дня в брюссельском представительстве Хартии состоялся прием с участием общественных деятелей Бельгии, Украины, Израиля, Ганы, сотрудников Госдепартамента США, представителей белорусской и польской общин Бельгии. А накануне по общеевропейскому каналу ARTE транслировался фильм белорусских документалистов "Побежденный страх".

**Наталья ПЕТРОВА.**

Здарэнні

## Каскадзёрам такое і не снілася

Пасля гэтага здарэння міжволі падумаеш, што не заўсёды добра мець пра запас некалькі газавых балонаў. На сваю бяду сям'я пенсіянераў Н. з гарпасёлка Шаркоўшчына мела аж тры запоўненыя блакітным палівам ёмістасці. У выніку ў адным з балонаў адбылася ўцечка паліва і ўтварылася выбуханебяспечная сумесь. У такіх выпадках чакай бяды. І неўзабаве раздаўся моцны выбух. Перапуджаная гаспадыня, быццам цыркавы акрабат, вылецела праз палаючае акно. Прыбыўшыя па выкліку суседзяў пажарныя ўбачылі ў агні большую частку будынку і здолелі выратаваць толькі частку хаты. У бальніцу з моцнымі апёкамі апроч жонкі трапіў і сам гаспадар.

Наогул жа не бывае таго дня, каб на Віцебшчыне не здараліся аналагічныя або яшчэ больш трагічныя выпадкі. Толькі на працягу апошняга тыдня ў вобласці адбылося 37 пажараў — рэкордная колькасць у бягучым годзе. Засмучае, што ў агні загінулі 13 чалавек, сярод якіх 9 пенсіянераў. Ад полымя ў пачатку года ўжо загінуў 31 грамадзянін, колькасць пажараў — 181, матэрыяльныя страты ад іх дасягнулі 4,9 трлн. рублёў. Тыповымі застаюцца прычыны гэтых бед — няспраўныя печы, зношаныя электраправодкі, курэнне ў нецвярозым стане, пагарджэнне правіламі бяспекі пры эксплуатацыі абагравальных прыбораў.

**Уладзімір ШЫТАЎ.**

Спорт

## Раўбічы запрашаюць на свята здароўя

У нейкай меры нават сімвалічна, што ў бліжэйшую суботу, 20 лютага, у Раўбічах пад Мінскам збяруцца многія тысячы аматараў спорту і актыўнага адпачынку, каб прыняць удзел у зімовым святе здароўя і тым самым выказаць сваю ўдзячнасць нашым выдатным біятланістам, якія сталі пераможцамі на чэмпіянаце свету, што закончыўся нядаўна ў Фінляндыі. Менавіта тут яны праводзілі свае апошнія трэніроўкі, адсюль яны ўсякі раз ад'язджаюць на буйнейшыя спаборніцтвы страляючых лыжнікаў.

У праграме масавага свята самым маляўнічым і цікавым абяцаюць стаць спаборніцтвы "Мінская лыжня-99". У іх прымуць удзел каманды ўсіх раёнаў беларускай сталіцы, а таксама лыжная дружына Мінскай вобласці. Далучыцца да спартсменаў могуць усе жадаючыя, толькі для гэтага трэба прыхапіць з сабой інвентар і медыцынскую даведку.

Дарэчы, арганізатары гэтай "масоўкі" — Міністэрства спорту і турызму і Упраўленне па фізічнай культуры, спорту і турызму Мінгарвыканкама — на ўсякі выпадак улічылі і капрызы лютага, памятаючы аб тым, як у 1990 годзе ў Раўбічах з-за таго, што нечакана настала пацяпленне, было нават адменена сусветнае першынство біятланістаў. Калі б гэта здарылася цяпер — не бяда. Аматары лыжні паспрабуюць свае сілы ў кросе на адзін кіламетр. Галоўнае, што ў пройгрышы ніхто не будзе. А шматлікія прызы і ўзнагароды атрымаюць і пераможцы і тыя, хто прайграў.

У гэты дзень адбудуцца таксама спаборніцтвы па гіравым спорце, армрэслінгу і перацягванні каната. Сваё майстэрства пакажуць скакуны з трампліна і фрыстайлісты, удзельнікі мастацкай самадзейнасці. Будуць, вядома, і гандлёвыя рады са стравамі нацыянальнай беларускай кухні.

**Вячаслаў ДУТАЎ.**

Увага: перапіс насельніцтва

## Паведамляйце аб выпадках уціску па моўных пытаннях

Паважаныя грамадзяне Рэспублікі Беларусь!

У перыяд з 16 па 23 лютага праводзіцца перапіс насельніцтва нашай краіны. У сувязі з гэтым Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны звяртаецца да Вас з просьбай паведамляць нам аб усіх выпадках уціску або нядобрасумленнасці лічыльнікаў па моўных пытаннях.

Наш кантактны тэлефон у Мінску **284-85-11.** Матэрыялы пра парушэнні будуць змешчаны ў сродках масавай інфармацыі.

**Сакратарыят Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны.**

Пр. Марыі, Марфы, Хрысціны, Максіма, Феафіла, Юльяна.
К. Конрада, Марцэля.

ЛЮТЫ
19
'99 ПЯТНІЦА

Усход 7.22
Захад 17.27.
Даўж. дня 10.05

Маладзік
16 лютага
Усход 9.54
Захад 23.04

